 




**TV СПАДАРОЖНІКАВАЕ!**

● БТ, РТР, Астанкіна, НТБ С.-Пецярбург, Польшча-1, Польшча-2.

**Гарадзенцы заўсёды будуць удзячныя грамадзяніну Нямеччыны Юргену Кляйну за вялікую колькасьць медыкаментаў і медыцынскае абсталяваньне, прывезеныя ім у Горадню. А хлопчыкі і дзяўчынкі з 52-га дзіцячага садка ніколі не забудуць барадатага дзядулю немца, які падараваў ім прыгожыя цацкі. Юрген Кляйн напэўна таксама не забудзе... менскую турму КДБ і допытыт у ёй, знаёмства з "зэкаўскімі" законамі ў гарадзенскай турме і памяшканьне Гарадзенскага раённага суду з лавай падсудных агіднага шэра-блакітнага колеру і бруднай карычневай плямай на столі.**

**Юрген КЛЯЙН да суда**

Працяг на ст.3



**ЗА ШТО СУДЗІЛІ НЕМЦА?!**

## САТАНІНСКАЯ СУБОТА

Пэўна ня вытрымаў напружанага чаканьня 70-гадовы хворы на рак са Шчучынскага раёну, які ноччу выкінуўся з акна трэцяга паверха абласной анкалагічнай бальніцы. Ад атрыманых траўмаў небарака памёр.




Мінулая субота была, напэўна, сатанінскай. У гэты дзень на Гарадзеншчыне загінула 6 чалавек. Яшчэ тры былі дастаўленыя ў бальніцы пасьля спробаў атруціцца лекамі.

**Другія матэрыялы на крымінальную тэму чытайце на старонцы 8.**

**У выхадныя чакаецца пераменная хмарнасьць, месцамі кароткачасовы дождж, навальніца. Удзень 18 жніўня без ападкаў. Вецер паўднёва-ўсходні і ўсходні, 4-9 м/сек, а пры навальніцы парывы да 12-14 м/сек.**

**Тэмпература паветра ўначы 13-18 градусаў, удзень 17 жніўня - 19-24, 18 жніўня - 21-26 градусаў.**


# ПАГОНЯ

ЗАСНАВАНА Ў 1920 Г

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

*№ 33 (180) • 16 — 22 жніўня 1996 г. • Кошт свабодны*


## "ЗАЧЫСТКА" ДЛЯ ПРЭЗІДЭНТА

**Сёньня на Гарадзеншчыне працягваецца візіт Аляксандра Лукашэнкі. Учора ён наведаў вытворчае аб'яднаньне "Азот", гарадзенскую тытунёвую фабрыку і сустрэўся ў драмтэатры з заранёў адабранай "грамадзкасьцю".**

Першай, яшчэ ў панядзелак, у Горадню прыехала прэзідэнцкая ахова, якая пачала старанную "зачыстку" горада. Сваю "зачыстку" ў сьпешным (лепш сказаць, сьмешным) парадку правoдзілі і гарадзенскія камунальнікі. Дапрыкладу, літаральна перад прыездам прэзідэнта яны адчысьцілі ад фарбы і надалі таварны выгляд замаляванаму раней гербу СССР над уваходам у 23-яе аддзяленьне сувязі, якое знаходзіцца побач з аблвыканкамам.

Візіт прэзідэнта распачаўся ўчора а палове 10-й раніцы ў аэрапорце "Абухава", куды ён прыляцеў на верталёце. Час да абеду А.Лукашэнка правёў на "Азоце". Пры сустрэчы з рабочымі, якіх адбірала кіраўніцтва прадпрыемства, прэзідэнт выказаў упэўненасьць, што народ на рэферэндуме яго падтрымае. А.Лукашэнка паведаміў таксама, што ў сераду падпісаў Указ аб новым грамадзянскім пашпарце. Прычым плаціць пры яго атрыманьні багатым прыйдзецца больш.

Пасьля абеду прэзідэнт накіраваўся на тытунёвую фабрыку, а увечары ў драмтэатры адбылася сустрэча з "грамадзкасьцю" Гарадзеншчыны. Дзякуючы стараньням замяталіных і іх падначаленых у Горадні, на сустрэчу не атрымалі прапускоў прадстаўнікі мясцовых незалежных сродкаў масавай інфармацыі, якім параілі глядзець прамую трансьляцыю па тэлевізару. Пасьля сустрэчы адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасьці. Артыстаў, каб лепей сьпявалі і танцавалі, перад гэтым бясплатна пакармілі ў рэстаране "Нёман".

Адпачыўшы ноччу ў прафілакторыі ў Парэччы, сёньня з раніцы А.Лукашэнка накіраваўся ў калгас імя Варанецкага Бераставіцкага раёну. Адтуль у абед на верталёце ён паляціць у Навагрудак, дзе наведае завод газавай апаратуры.

**Вітаўт РУДНІК**

## НЯ СЬПІЦЬ АХОВА

У ноч перад прыездам Аляксандра Лукашэнкі міліцыяй была затрымана група гарадзенцаў. Іх падазраюць у напісаньні на мурах гарадзенскай турмы "прывітальнай" адозвы да прэзідэнта.

**Д.К.**

## ДЗЯРЖАЎНЫМ КАМІТЭТАМ – ПА ДРУКУ! альбо БОЛЬШ ТРОХ НЕ ЗЬБІРАЦЦА

Атрымаўшы за апошнія паўтара месяца два папярэджаньні "Аб парушэньні Закону "Аб друку"", якія вынес "ПАГОНІ" старшыня Дзяржкамдруку Уладзімір Бельскі, я падумаў, што ўказаны камітэт рэарганізавалі ў чарговы раз. Аднак, на фірмовым бланку па-ранейшаму стаяць словы "камітэт па друку". Не цэнзурны камітэт, не камітэт супраць друку. Тым ня менш, у гэтых, мякка кажучы, дакумантах паміж радкамі так і чытаецца скалазубаўскае: "Не сметь своё суждение иметь!"

Некалі адзін вялікі гуманіст сказаў: "Я не падзяляю Вашую думку, але гатовы аддаць жыцьцё за тое, каб Вы мелі права і магчымасьць яе выказаць". Ніхто не патрабуе ад спадара Бельскага такіх высокіх памкненьняў. Як кажуць, "паэтам можаш ты ня быць". Але выконваць Канстытуцыю Беларусі, дзе прадэкларавана свабода слова, дзяржаўны чыноўнік абавязаны. Таксама як абавязаны мець хаця б мінімум прафесіяналізму дзеля таго, каб адрозьніць парушэньне закону ад рэалізацыі Канстытуцыйнага права.

Можна па-рознаму адносіцца да такіх дзеячаў беларускага руху як Радаслаў Астроўскі, Дзьмітры Касмовіч, Міхал Вітушка. Вось толькі адмоўная ацэнка іхняй дзейнасьці зусім ня значыць, што іх ня можна ацэньваць па-іншаму, а тым больш увогуле ня можна пісаць пра іх, як гэта вынікае з папярэджаньня ад 21.06.96 г. Няма такога Закону! І хто, як не спадар Бельскі, павінен пра гэта ведаць? Хто, як не спадар Бельскі, павінен забясьпечваць з аднаго боку права грамадзян на атрыманьне інфармацыі, а з другога боку права журналістаў на яе распаўсюджваньне? На справе ж атрымліваецца зусім іншае: "Трымаць! Не пушчаць!" Праходзілі мы ўжо усё гэта, паважаны старшыня Бельскі. Дагэтуль расхлябацца ня можам.

Чорна-белы падыход да падзей і людзей гэта, як паказала, дый зараз паказвае гісторыя, гэта шлях у ГУЛАГ - маральны, духоўны, фізічны. Гэта шлях да канфрантацыі, у якой звычайна не бывае пераможцаў. Вельмі рэдка бывае, што ісьціна належыць нейкай крайняй думцы. Звычайна яна ляжыць недзе пасярэдзіне. І нараджаецца, як сьведчыць народная мудрасьць, у спрэчках.



230023, г.Гродна, вул. Дамініканская, 1

Рэдакцыі газеты "Пагоня"

Рэдактару М.Маркевічу

Аб парушэнні Закона аб друку

У.П.Бельскі

Ня маю ніякага жаданьня вучыць свайго былога калегу жыць. Засмучае толькі тое, што "пасяганьні на маральнасьць, гонар і годнасьць грамадзян" мрояцца ня проста спадару Бельскаму, а старшыні Бельскаму. Чалавеку, надзеленаму ўладай пры жаданьні "прыхлопнуць" газету. Калі няма за што, то прычыну можна высмактаць проста з пальца. Напрыклад, зьвязаўшы надрукаваны ў нас радок: "...здрадніцкая палітыка Лукашэнкі, які падманам захапіў уладу і які ненавідзіць Беларусь і беларусаў..." з распальваньнем "нацыянальнай, сацыяльнай, расавай, рэлігійнай нецярпімасьці ці варожасьці" (папярэджаньне ад 2.08.96 г.).

Хочацца нагадаць, што алілуйнае "прэзидзент харошый" на розныя галасы і без таго цягнуць тысячы "чэсных" журналістаў, разносячы гэтую думку мільённымі тыражамі. Журналісты "ПАГОНІ" не зьбіраюцца аспрэчваць права гэтых людзей на падобную думку. Аднак, выдатна бачаць, што колькі ня гаворыцца слова "халва", у беларускім роце салодка не становіцца. Так што і далей мы будзем рабіць сваю газету так, як гэта нам падказвае не "веление времени", а наш дасьвед і сумленьне. Безумоўна, мы гатовыя канструктыўна рэагаваць на любую крытыку, з чыйго боку яна б не зыходзіла. Але на крытыку, а не на канцлагернае: "Больш трох не зьбірацца".

Тым больш, ня трэба, паважаны старшыня Бельскі, шукаць чорную кошку ў цёмным пакоі. Асабліва, калі яе там няма.

**Мікола МАРКЕВІЧ.**

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ НА ЛЕНІНСКАЙ

**Аўкцыён у рамках праграмы "Малая прыватызацыя" прайшоў 14 жніўня ў Лідзе. Ён быў пятым па ліку для горада. З пяці лотаў прададзена тры.**

Першым быў выстаўлены металёвы склад па вуліцы Чэхава. Пры стартавым кошце 301 мільён рублёў ён быў прададзены ва ўласнасьць за 330 мільёнаў рублёў.

Права арэнды аднапавярховага цаглянага будынку крамы па вуліцы Касманаўтаў было прададзена за 11 мільёнаў рублёў. Гэтая сума толькі крыху пераўзышла пачатковы кошт.

Трэцім лотам на аўкцыёне было права арэнды двухпавярховага памяшканьня камбіната бытавога абслугоўваньня па вуліцы Ленінскай. Яно прададзена за 55 мільёнаў пры стартавым кошце 50 мільёнаў рублёў.

**М.ВАСІЛЕВІЧ**

## ШКАДА, ПАН ПРЭЗІДЭНТ...

Паважаны пан Прэзідэнт! Чакала я Вас у Горадню - ледзь дачакалася. Вельмі ж ужо хацелася мне, як "жэншчыне" сярэдніх гадоў і "прывлекацельной ешчо внешности" зірнуць хоць краем вока на Вас, у першую чаргу, як на "мужчыну".

Справа ў тым, што я, як і Вы, пры жывым мужу, жыву асобна ад яго. І, можа, маглі б мы з Вамі сустрэцца дзе-небудзь. Напрыклад, на вуліцы Сав.Пагранічнікаў (пару дзён назад дзеля Вашага прыезду там паклалі навюткі асфальт), ці прайшліся б па вуліцы Астроўскага (там некалькі сутак запар фарбавалі платы і бардзюры), ці зрабілі шпацыр па цэнтры майго любага горада, які да сустрэчы з Вамі расквітнеў бы раней на сьвята Першамая. А мо, нават, пайшлі б паплаваць у ФАК, бо там, людзі кажуць, цяпер усё чыста ў палацы якім блішчыць ( так стараліся, каб Вам дагадзіць)...

Я нават купіла сабе новую турэцкую сукню і кітайскія пантофлі (па Вашаму густу), каб спадабацца Вам...

Але, даведалася, не з маім шчасьцем. Да Вас "дапушчалі" толькі абраных прадстаўнікоў "абшчэственнасьці".

А шкада...

Усюды за Вас арганізуюць нейкія камітэты падтрымкі, абароны, заахвочваньня, спачуваньня і г.д. Але мяне нікуды не запрасілі (я думаю з-за майго сярэдняга, а ня сталага ўзросту).

Таму і зьбіралася я апрануць учора турэцкую сукню, абуць кітайскія пантофлі і пайсьці зьбіраць па Горадні "жэншчын" маладога і сярэдняга ўзросту, і мужчын, якія здужаюць (бо зарплату не атрымліваюць), каб на выпадак абяцанай прагнозам навальніцы моцна дзьмуць на хмары і паразганяць іх у бок праклятай Польшчы, на гэтых цэрэушнікаў, якія рыхтуюць Вам небясьпеку! Файна было б, і патрыятычна: усе бачылі б, як народ любіць свайго Бацьку, як шануе яго, як паважае...

Аднак Вы - прыдумалі - міліцыя, ахова, АМАП, "предстовители абшчэственнасци"...

Шкада...

**Магда-Фрэдзя ЛЫСАЯ.**

## ХТО ПАТУРАЕ МАХЛЯРАМ?




**На гарадзенскіх рынках пры поўным бязьдзеяньні гарадзкіх і абласных уладаў працягваецца падман пакупнікоў. Сьведкамі гэтага сталі сябры БНФ з таварыства абароны правоў спажыўцоў, якія зьдзейсьнілі 13 жніўня рэйд па Скідальскім рынку.**

...Вочы сталай гарадзенкі ледзь ня вылезлі на лоб, калі высьветлілася, што вагі, якімі ёй толькі што адважылі 8 кілаграмаў перца, падманваюць на 300 грамаў на кожным кілаграме. Дзякуючы гэтаму ветлівы гандляр з Баку на вачах грамадзкіх кантралёраў паклаў у сваю кішэню лішнія 24 тысячы рублёў. Такі ж лагодны і вясёлы "джыгіт" зьлева "накручваў" сабе капітал на кавунах, якія чамусьці важылі на 200 грамаў больш, чым былі на самой справе. Крыху далей вагі маладой гарадзенкі, нанятай тымі ж гасьцямі з сонечнага Каўказа, падманвалі пакупнікоў на 300 грамаў на бананах і памідорах...

Усё гэта штодня адбываецца на вачах адміністрацыі рынку, якая неаднаразова зьвярталася да ўладаў з просьбай даць ёй адпаведныя паўнамоцтвы, каб навесьці парадак. На гэты ж момант правоў такіх у супрацоўнікаў рынку няма. Накласьці штраф - нельга, канфіскаваць ці зьнішчыць няспраўныя вагі - нельга. Спасылкі на досьвед Менску, дзе эфектыўнасьць гэтых мераў даўно праверaная, для гарадзенскіх чыноўнікаў - пусты гук. Вось толькі каб не пераўтварыўся ён у выбух бомбы, калі самі пакупнікі пойдуць наводзіць парадак.

Каб прадухіліць гэты выбух, сябры таварыства абароны правоў спажыўцоў ад антыкарупцыйнага камітэту за сацыяльную справядлівасьць гарадзенскай арганізацыі БНФ накіравалі зварот да старшыні гарвыканкаму сп.Крупенкі. Пры Цэнтральным рынку прапануецца стварыць часовую камісію для кантролю за гандлем. У склад яе павінны ўвайсьці прадстаўнікі таварыства абароны правоў спажыўцоў, службы аховы рынку, міліцыі, падатковай інсьпекцыі, упраўленьня гандлю гарвыканкама. Прапануецца таксама забараніць на рынку карыстаньне бытавымі і няспраўнымі вагамі, а на добра бачных месцах выставіць кантрольныя вагі.

**Вітаўт РУДНІК.**

## ЗАГІНУЛІ НЕ НА ВАЙНЕ

За першае паўгоддзе на вытворчасьці ў Гарадзенскай вобласьці загінула 20 чалавек. Яшчэ 76 чалавек атрымалі цяжкія траўмы. Асноўная колькасьць няшчасных выпадкаў была зарэгістравана ў сельскай гаспадарцы

**В.ДРЭМА.**

## ...ПРАЦЯГВАЦЬ БАРАЦЬБУ

Сойм Беларускага Народнага Фронту распаўсюдзіў 10 жніўня заяву, у якой запатрабаваў ад уладаў "стварыць магчымасьць бясьпечнага вяртаньня Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка на Радзіму. Сойм падтрымаў таксама рашэньне лідараў БНФ папрасіць палітычнага прытулку, выказаўшы упэўненасьць, што "яны будуць працягваць сваю барацьбу на карысьць Бацькаўшчыны".

**В.М.**

## ВЕРТЫКАЛЬ СКАРАЧАЕЦЦА

На 10 працэнтаў паменьшае ў бліжэйшы час апарат аблвыканкаму. Згодна атрыманаму з Кабінету Міністраў прадпісаньню, скарачацца ў першую чаргу будуць людзі, якія займаюць дублюючыя адна адну пасады. На чвэрць скарачаецца і аўтапарк абласной "вертыкалі".

**В.Р.**

 





# ВУЛІЧНАЯ АПАЗІЦЫЯ ПАДТРЫМАЕ ПАРЛАМАНЦКУЮ

**Сойм Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" 10 жніўня на сваім чарговым паседжаньні прыняў рашэньне аб правядзеньні ў пачатку верасьня масавых грамадзкіх акцый. 2 верасьня, на пачатак працы сесіі Вярхоўнага Савету, плануецца пікетаваньне Дома Ураду, а 8 верасьня -сьвяткаваньне Дня беларускай вайсковай славы. Пры гэтым 8 верасьня на вуліцах Менска чакаецца людзей больш за тыя 30 тысячаў, якія Канстаньцін Астрожскі, гетман найвышэйшы, прывёў у 1514 годзе пад Воршу.**

Безумоўна, што абедзьве акцыі будуць насіць ярка выражаную антылукашэнкаўскую скіраванасьць з мэтай надаць парламанцкай апазіцыі рашучасьці пры разглядзе пытаньня аб імпічмэньце дыктатара.

Сойм разгледзеў палітычнае становішча ў краіне, пазіцыю БНФ па пытаньнях выбараў і рэферэндуму, а таксама палітычныя асьпекты звароту Зянона Пазьняка і Сяргея Навумчыка ў кангрэс ЗША з просьбай палітычнага прытулку. Азнаёміўшыся з фактамі перасьледу кіраўнікоў Фронту, якія знаходзяцца на Беларусі, Сойм цалкам адобрыў крок Пазьняка і Навумчыка. Пры гэтым было высьветлена, што гэты крок даў надзвычай шырокі розгалас і міжнародны рэзананс. У прыватнасьці, Міністэрства замежных спраў і сьпецслужбы Расеі па ўсіх даступных ім каналах вядуць інтэнсіўную працу, каб не дапусьціць станоўчага для Пазьняка і Навумчыка рашэньня кангрэсу. Але ў дадзенай сітуацыі любое рашэньне будзе станоўчым (гэтак адзначылі сябры Сойму).

На Сойме стала вядома, што Пазьняк і Навумчык прыступілі да працы з Радай Беларускай Народнай Рэспублікі, якая дае падставы чакаць яднаньня ўсіх беларускіх сілаў замежжа.

Сойм прыняў ухвалы "Пра становішча ў Чачэнскай Рэспубліцы Ічкерыі" ды "Пра "Заяву сямёх" і перспектыву "круглага стала"", а таксама вырашыў арганізацыйнае пытаньне, зьняўшы абавязкі старшыні камісіі па міжнародных зносінах з Валяньціны Трыгубовіч па яе заяве.

**Станіслаў СУДНІК.**

# НЯМА БРАГІ, АЛЕ ПОЎНА ЗЬВЯГІ

Не сьціхае розгалас вакол скандальнай заявы расейскага думца Віктара Ілюхіна. Сродкі масавай інфармацыі Беларусі разгарнулі сапраўдную істэрычную кампанію па "ўратаваньні" першага "усенароднага". Падключылася (альбо падключана) і рэгіянальная прэса. Так, самая "праўдападобная" газета вобласьці зьмясьціла на сваёй цэнтральнай паласе афіцыйнае "камюніке" пад кодавай назвай "Соблюдать спокойствие и бдительность". З першага прагляду, па-праўдзе, цяжка ўцяміць, каму належыць аўтарства адозвы. Толькі ўчытаўшыся, можна зразумець, хто выявіў пільнасьць - гэта аблвыканкам змушаны "отвлекаться на ненужные политические разборки". У класічных савецкіх традыцыях выканаўчая ўлада грае ролю "политинформатора и агитатора". Хаця і сорамна (не выпадковы аўтарскі камуфляж), але ж "барин приказал". Трэба меркаваць, цяпер нікому ня ўдасца "отрешить" (лінгвісты яшчэ займуцца гэтым неалагізмам, які сугучны з расейскім дзеясловам "порешить") прэзідэнта.




У рэальнасьці ж Аляксандру Рыгоравічу пагражае толькі адно - абсалютна легітымны імпічмэнт з боку Вярхоўнага Савету. Сваёй антыканстытуцыйнай, антыдзяржаўнай, антырынкавай палітыкай Лукашэнка сам загнаў сябе ў кут. І падтрымкі няма адкуль чакаць. Нават маскоўскія вышэйшыя чыны ледзь хаваюць сваё раздражненьне пры сустрэчы з "вялікім інтрыгатарам". У такой сітуацыі толькі і застаецца, як пампаваць мыльныя бурбалкі для серыялу "Замах на прэзідэнта".

**Хельмут КАМЕНСКІ.**

# РЭФЕРЭНДУМ - ГЭТА СПРОБА СПЫНІЦЬ БЕГ ЧАСУ

**З кожнай секундай зьмяншаецца тэрмін панаваньня Прэзідэнта А.Лукашэнкі**

На мінулым тыдні Прэзідэнт Беларусі ўнёс у Вярхоўны Савет прапанову правесьці ў лістападзе рэферэндум па распрацаванай ім новай Канстытуцыі і іншых пытаньнях умацаваньня прэзідэнцкай улады. Мэта А.Лукашэнкі - падпарадкаваньне кіраўніку дзяржавы ўсіх структур улады: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Па дзеючай Канстытуцыі галіны ўлады падзелены, маюць самастойныя паўнамоцтвы. Гэта зроблена дзеля таго, каб ураўнаважыць іх і папярэдзіць авантурныя памкненьні любой з іх.

А.Лукашэнка даўно заяўляў, што прэзідэнцкая ўлада - гэта ствол дзяржаўнага дрэва, а ўсё астатняе - толькі галінкі на тым ствале. Сёньня ён сфармуляваў доўга вынашаныя прапановы, накіраваныя на злом дэмакратычнай сістэмы ўлады і ўвядзеньне наўпроставага прэзідэнцкага кіраваньня.

Прэзідэнт імкнецца да зьмены дзяржаўнага ладу ня толькі таму, што яму хочацца задаволіць свае амбіцыі малодшага- палітрука і дырэктара невядомага саўгасу. Мінуўшыя два гады пераканалі, што ён ня ў стане аздаравіць эканоміку, вывесьці краіну з крызісу. Не па Сеньцы шапка. Хвалёны "рынкавы сацыялізм" аказаўся такім жа блефам, як і "запуск заводаў", "барацьба з карупцыяй" і г.п.

Давер да "усенароднаабранага" падае. Аб гэтым сьведчыць сумесная заява сямі вядучых палітычных партый ад камуністаў да БНФ, падтрыманая прафсаюзамі, у якой палітыка прэзідэнта падвергнута зьнішчальнай крытыцы. Гульня ў рэферэндум дапаможа зрабіць уладу А.Лукашэнкі неабмежаванай і доўгатэрміновай. У гэтай сітуацыі трэба памятаць, што адзін плебісцыт ужо прайшоў. Жыцьцё ад гэтага толькі пагоршылася.

**Сяргей САМАСЕЙ.**

# "ВОСЕНЬ НА БЕЛАРУСІ МОЖА БЫЦЬ КРЫВАВАЙ"

**Палітычныя падзеі на Беларусі, зьвязаныя з маючым адбыцца ўвосень рэферэндумам, які зьбіраецца правесьці Прэзідэнт А.Лукашэнка, выклікаюць стабільны інтарэс польскага грамадзтва. На мінулым тыдні з Менску вярнуўся польскі палітолаг Ежы Марек Навакоўскі.**

Пад час гутаркі з карэспандэнтам Бі-Бі-Сі пан Навакоўскі сказаў, што беларускі прэзідэнт усё яшчэ карыстаецца падтрымкай тых, хто хоча, каб улада вырашала за іх усе праблемы. Кіраваньне дзяржавай,як вялікім калгасам, успрымаецца імі цалкам натуральна.

Цікавай зьявай у дзеяньнях А.Лукашэнкі выглядае, на думку палітолага тое, што прэзідэнт спрабуе будаваць матэрыяльную базу для свайго атачэньня, стварае для яго сістэму прывілеяў.

Пан Навакоўскі выказаў непакой тым, што восень на Беларусі можа быць крывавай. Варта памятаць, што лёс Беларусі вырашае Масква. "Для Польшчы вельмі небясьпечна тое, што з цягам часу ва ўсё большай ступені будучыня краіны і самога Лукашэнкі залежыць ад Масквы", -заканчвае свае думкі польскі палітолаг.

**С.С.**

# "КРУГЛЫ СТОЛ" І РЭФЕРЭНДУМ ВАЧАМІ ГАРАДЗЕНСКІХ ПАЛІТЫКАЎ

**На гэтым тыдні рэдакцыя "ПАГОНІ" папрасіла выказаць свае меркаваньні па пытаньнях правядзеньня, прапанаванага шэрагам палітычных партый, "круглага стала" і абвешчанага прэзідэнтам рэферэндуму, лідараў найбольш уплывовых гарадзенскіх партыяў.**

**Старшыня абласной філіі Аб'яднанай грамадзянскай партыі спадарыня Галіна ОСІПАВА:**

- Любы абмен думкамі аб выпрацоўцы стратэгіі пабудовы эканамічнага жыцьця краіны карысны. У такім сэньсе "круглы стол" патрэбны.

З другога боку, прэзідэнт, нарабіўшы за два гады шмат памылак у эканоміцы і палітыцы, нават не зьбіраецца іх выпраўляць. Атрымліваецца, гэта яго канцэпцыя. Таму на сёньняшні дзень "круглы стол" нічога рэальна выпрацаваць ня можа. Нельга пераканаць чалавека, упэўненага, што толькі ён мае рацыю.

Што датычыць рэферэндуму, сама ідэя добрая.

Але на беларускім радыё ўжо пачалася апрацоўка мазгоў. Увесь час гаворыцца, што Канстытуцыя дрэнная, "усенароднаабранаму" перашкаджаюць працаваць. І калі Вярхоўны Савет нічога ня зможа супрацьпаставіць прэзідэнту, Лукашэнка на рэферэндуме атрымае такія адказы, якія хоча.

**Старшыня абласной філіі БСДГ спадар Алесь БЫКОЎСКІ:**

- Я ня бачу іншага шляху пераадоленьня існуючага крызісу ў дзяржаве. Грамадзтва само ідзе да аб'яднаньня. Прыкладам можа служыць супрацоўніцтва прадстаўнікоў розных партый у Абласным таварыстве абароны правоў спажыўцоў. Дзе старшыня - член ПКБ, намесьнік -сацыял-дэмакрат, а адну з самых актыўных груп складаюць сябры БНФ.

Наколькі мне вядома, вельмі любіў праводзіць рэферэндумы Гітлер. І ўсе яго самыя вар'яцкія планы абвяшчаліся воляй народу.

Рэферэндум не павінен быць прыкрыцьцём для рэалізацыі палітычных амбіцыяў асобных груповак і іх лідараў.

**Намесьнік старшыні Гарадзенскай Рады БНФ спадар Сяргей МАЛЬЧЫК:**

- Народны Фронт падтрымлівае ідэю "круглага стала". Гэта адзін са сродкаў палітычнага супрацоўніцтва, пры якім можна пазьбегнуць канфрантацыі.

На апошнім Сойме БНФ было прапанавана пераўтварыць "круглы стол" у пастаянна дзейнічаючы міжпартыйны камітэт.

Рэферэндум, які плануецца правесьці ў лістападзе, гэта спроба пад выглядам раяньня з народам зрабіць канстытуцыйны пераварот у дзяржаве. Калі б прэзідэнт не баяўся за сваё становішча, ён бы сьмела ішоў на наступныя выбары праз тры гады.

Калі адбудзецца пазбаўленьне Вярхоўнага Савету рэальнай улады, яна сканцэнтруецца ў руках аднаго чалавека. А гэта вельмі небясьпечна для ўсяго грамадзтва.

**Старшыня Гарадзенскай ПКБ спадар Уладзімір ВЕРХАСЬ:**

- Я лічу, што ідэя "круглага стала", на якім павінны абмяркоўвацца найбольш важныя для жыцьця рэспублікі пытаньні, разумная. Мэта яго - дасягнуць згоды паміж рознымі палітычнымі партыямі, прэзідэнтам, Вярхоўным Саветам і ўрадам. Паспрабаваць вывесьці рэспубліку з крызісу. Калі атрымаецца, гэта вялікая справа. Рознагалосьсі толькі перашкаджаюць. Таму пад час "круглага стала" трэба не займацца крытыкай адзін аднаго, а шукаць шлях да выхаду з эканамічнага крызісу. Праўда, сябры нашай партыі па-рознаму ставяцца да ідэі "круглага стала". 12 жніўня прайшоў сход гарадзенскіх камуністаў, на якім сур'ёзна крытыкаваўся Калякін за тое, што падпісаў заяву сямі партый.

На пытаньне аб рэферэндуме я не гатовы адказаць. Раней трэба ўважліва абмеркаваць прапановы прэзідэнта.

# "ВАЙНА СКОНЧЫЦЦА, КАЛІ АПОШНІ РАСЕЙСКІ САЛДАТ ПАКІНЕ ЧАЧНЮ"

**Апошнімі днямі ў Чачні з новай сілай разгарэлася вайна. Зноў гінуць сотні мірных жыхароў, расейскіх салдат і чачэнскіх партызан. Жыхары Беларусі ведаюць пра вайну з паведамленьняў расейскіх СМІ.**

**Ніжэй прыводзяцца выказваньні сьведкаў вайны, запазычаныя з фільмаў "Самотныя ваўкі" Андрэя Папета і "Здраджаныя" Клайфа Гордана, якія былі паказаны па польскім тэлебачаньні.**

**Спадзяемся, што гэтыя сьведчаньні хоць трохі патлумачаць нашым чытачам, што на самой справе адбывалася і, на жаль, працягвае адбывацца ў Чачні.**

**Шырвані Басаеў, палявы каманьдзір:** "Што мне можа даць Расея? Толькі тое, што мае сама. У яе няма веры, няма эканомікі - нічога. Але кажуць абавязкова жыць з імі. А я кажу - не! Патрабую веры, ідэі, радзімы, свайго сьцягу, свабоды і суверэнітэту, каб мой народ не змаглі дэпартаваць, выкінуць са сваёй зямлі, зьдзеквацца, дыктаваць свае законы. Ніхто лепш за чачэнца ня можа ведаць, як павінен жыць чачэнец!"...

**Палкоўнік Косаў, які вёў перамовы з чачэнцамі аб абмене палоннымі, кажа па тэлефоне дэпутату дзяржДумы:** "Тут адбываецца крывавая драма. Трэба нешта зрабіць. Паведаміць у міністэрства абароны, што абстрэльваюць і практычна зьнішчаюць Самашкі. Не дазваляюць выйсьці мірным жыхарам, паляць хаты. Баявікі адтуль даўно выйшлі. Зачыстка называецца!"...

**Старэйшына Самашак:** "Мы сустрэліся з намесьнікам камандуючага, генералам Антонавым. Хацелі вырашыць усё мірна, каб ня гінулі людзі, каб федэральныя войскі ўвайшлі мірным шляхам. Ён запатрабаваў аддаць 264 аўтаматы. Я сказаў, што мы сяляне, зброі ня сеем і не зьбіраем. Ведаем толькі плуг ды трактар. Хто меў зброю - даўно ўжо адсюль пайшоў. Але ён сказаў, калі не аддадзім зброю, пачнуць атакаваць. Я папрасіў, калі на працягу дзьюх гадзін нічога ня знойдзем, дык няхай хоць зробяць калідор, каб людзі змаглі прайсьці. Калі хочаце абмыць свае рукі крывёй - калі ласка, але ж выпусьціце хаця б жанчын і дзяцей. Дазволіў. Калі мы пачалі іх выводзіць, невядома адкуль адкрылі агонь снайперы"...

**Ацалелыя жыхары Самашак:**

- Мы сядзелі ў падвале, дзе бульба. Гэта трэба бачыць на свае вочы. Паўсюль ляжаць трупы, не дазваляюць іх пахаваць. Ляжаць параненыя і ніхто ім не дапамагае...

- Нас два дні забівалі. Паедзьце туды, калі ласка, акажыце медыцынскую дапамогу. Няма цэлых целаў. Не разьбярэш, дзе жанчына, дзе мужчына, усе паразрываныя на кавалкі...

- Забілі ўсю маю сям'ю, зараз ненавіджу ўсіх расейцаў. Мы адпомсьцім за нашых загінуўшых. Я жанчына, а адпомшчу за сьмерць майго брата і сястры...

- Які парадак тут расейцы робяць? Жанчын у падвале аблілі беньзінам і падпалілі...

- У суседзкім падвале сядзелі дзеці. Яны крычалі: "Не забівайце нас, мы дзеці". Салдат сказаў: "Вельмі добра" - і кінуў гранату. Загінулі ўсе...

- Учора бачыў, як гарэла маці з двума дзецьмі. Вы думаеце пасьля гэтага я буду стаяць склаўшы рукі? Мы будзем іх паліць, рэзаць, душыць...

Сябра дэлегацыі дзяржДумы, прыляцеўшай у Самашкі: "У мяне цэлы сшытак са зьвесткамі аб загінуўшых. Старыя людзі 60-65 гадоў. Хворага, які ляжаў у ложку, вынесьлі і расстралялі. Гэта баявікі? Страшная трагедыя, зробленая нашымі расейскімі рукамі"...

**Баявік:** "Звычайныя прызыўнікі, маладыя хлопцы, баяцца ісьці ў бой. Калі прыпыняюцца, ззаду па іх страляюць кантрактнікі. Пасьля загінуўшых сьпісваюць, як страты. У час артабстрэлу таксама часта гоняць сваіх наперад. Трупаў наогул не зьбіраюць. Я быў пад Гойскім. Мы тры разы казалі, што спыняем агонь, каб прыбралі загінуўшых. Пад вечар яны адцягнулі некалькі трупаў. А 37 чалавек праляжалі два тыдні. Мы пахавалі іх потым у варонках ад бомбаў...

**Расейскія жанчыны, якія прыехалі ў Чачню шукаць сваіх сыноў:**

- Ён у войску толькі 5 месяцаў, адзін раз быў на вучэньні...

- Спадзяюся на прыстойнасьць чачэнскага народу, што яны не заб'юць нашых дзяцей. На Расею я ўжо не спадзяюся...

- Мой сын - лейтэнант, яго няма ў сьпісе жывых, няма і ў сьпісе загінуўшых. Нідзе не магу яго знайсьці...

**Іса Матаеў, вёў перамовы з чачэнскага боку аб абмене палонных, з палкоўнікам Косавым:** "Навошта катуеце гэтых матак, возіце іх паўсюль? Чаму камандаваньне расейскага войска ня можа ім сказаць: "Вашых сыноў няма ў жывых, яны загінулі па нашай глупоце, іх трупы ў Грозным елі сабакі, а мы іх не пахавалі"...

**Кіраўнік штабу чачэнскага войска Масхадаў:** "Ужо 300 год наш народ ваюе з Расеяй. Нашы бацькі, дзяды, прадзеды ваявалі. Цэлы сьвет лічыць, што чачэнцы – тэрарысты, дзікія зьверы. Падрыхтоўвалі грамадзкую думку, каб зараз казаць, што забіваюць бандытаў. Камандаваньне расейскага войска лічыць, што вайна набліжаецца да канца. Памыляецца. Вайна закончыцца, калі апошні расейскі салдат пакіне Чачню, калі мы ўрэшце пачнем перамовы, калі прызнаюць, што мы народ. А калі хочуць прымусіць нас сілай, запалохваньнем, няхай ведаюць - гэта толькі пачатак вайны"...

# МУЖНАСЬЦЬ ВЫКЛІКАЕ ЗАХАПЛЕНЬНЕ

**10 жніўня Сойм БНФ распаўсюдзіў заяву, у якой, у прыватнасьці, гаворыцца:**

"Неўзабаве пасьля заканчэньня прэзідэнцкіх выбараў у Расеі стала зразумела, што абяцаньні расейскіх уладаў мірна закончыць вайну ў Чачэніі былі толькі перадвыбарчым лозунгам. Мужнасьць невялікага горнага народу, які кінуў выклік гэтай імперыі ды рашуча бароніць сваю свабоду, выклікае захапленьне і спачуваньне.

Краіны ж, якія не жадаюць пазбыцца імперскіх апетытаў, якія не жадаюць прызнаваць гэтага права за паняволенымі народамі, асуджаны на крывавыя войны і нестабільнасьць".

**Ул.інф**

# ЗА ШТО СУДЗІЛІ НЕМЦА?!

Бізнэсмэн Юрген Кляйн з нямецкага горада Эсэна некалькі гадоў таму назад упершыню прыехаў у Горадню з мэтай распачаць сумесную вытворчасьць запчастак для сельскагаспадарчых машын. Спробы супрацоўніцтва з нашымі прамыслоўцамі атрымаліся няўдалымі. Але нямецкі бізнэсмэн вырашыў паспрабаваць яшчэ раз. Для гэтага Юргену Кляйну даводзілася часта прыязджаць у Горадню на сваёй машыне. Адначасова ён прывозіў дэфіцытныя ў нас лекі, якія ахвяраваў шэрагу гарадзенскіх шпіталяў. Ён прывёз і вельмі патрэбны нашым медыкам апарат для выяўленьня рака малочнай залозы ў жанчын, іншую гуманітарную дапамогу. Частку лекаў яму прыходзілася аплочваць за свой кошт.

Захапленьне Юргена Кляйна - паляваньне. І калі яму прапанавалі папаляваць у Беларусі, ён з задавальненьнем згадзіўся. Кожны паляўнічы ведае - лепш за ўсё карыстацца асабістай стрэльбай. На пачатку 1995 году спадар Юрген прывёз у Горадню свой гладкаствольны "Вінчэсьцер", наіўна думаючы, што ў Беларусі, як і ў іншых эўрапейскіх краінах, дастаткова рэгістрацыі паляўнічай зброі ў Нямеччыне. Кляйн не пазначыў стрэльбу ў мытных дакумантах.

Аднойчы на паляваньні Юрген пазнаёміўся з начальнікам Гарадзенскай міліцыі спадаром Белашэўскім. Спадар Белашэўскі запрасіў свайго новага знаёмага ў спартыўны цір "Дынама".

Юрген Кляйн ня просты аматар-паляўнічы, а стралок-спарцмэн. Ён двухразовы чэмпіён Нямеччыны, пасьпяхова выступаў на міжнародных спаборніцтвах. І, калі гаспадары папрасілі прывезьці патроны для беларускіх спарцмэнаў, Кляйн паабяцаў гэта зрабіць. Але пры адной умове: гарадзенцы павінны заняцца мытным афармленьнем боезапасу, а ён толькі прывязе іх на мяжу.




Беларускі бок запэўніў, што ўсе папяровыя справы возьме на сябе.

На радзіме Юрген Кляйн за свой кошт і з дапамогай знаёмых сабраў для гарадзенскіх спарцмэнаў патронаў нават больш, чым спадзяваліся атрымаць у "Дынама". Прывёз таксама лекі для паліклінікі УУС. Да таго ж, спадар Кляйн дамовіўся аб прыездзе гарадзенскіх стралкоў, у тым ліку будучых алімпійцаў, на трэніроўку ў Нямеччыну.

29 сакавіка гэтага году, на аўтамабілі, загружаным медыкаментамі і боезапасамі, ён прыехаў на памежны пераход Брузгі-2. Спадзеючыся на ранейшую дамову з гарадзенскай міліцыяй, Кляйн не пазначыў у дэкларацыі патронаў і дзьвюх банак пораху. З гэтай нагоды мытнікі затрымалі груз, як не зарэгістраваны. Прадстаўнік "Дынама" прывёз на мытню дазвол з МУС на частку патронаў, якую папярэдне замовілі ў Юргена. На працягу некалькіх гадзін быў атрыманы і дадатковы дазвол на астатнія боезапасы. Юргена разам з грузам адпусьцілі. У той самы дзень гарадзенская паліклініка УУС атрымала 19 скрынак медыкаментаў, а боезапасы былі перададзены ў цір "Дынама".

Можна было б палічыць інцыдэнт вычарпаным. Але за справу ўзяўся КДБ. 2 красавіка Юргена Кляйна арыштоўваюць, на яго гарадзенскай кватэры знаходзяць паляўнічы "Вінчэсьцер". Немец, упэўнены ў сваёй нявіноўнасьці, кажа, што сам правёз стрэльбу праз мяжу. Яго садзяць у сьледчы ізалятар, з ціра "Дынама" канфіскуюць прывезеныя патроны, праўда, частку іх за тры дні ўжо пасьпелі выкарыстаць на трэніроўках.

Чатыры месяцы ішло сьледзтва. Юргенам займаўся менскі КДБ. Становішча грамадзяніна Нямеччыны ўскладнялася тым, што ён прывёз патроны да спартыўнай зброі, калібр якой тэарэтычна падыходзіць да зброі баявой. Яго абвінавачваюць у незаконным захоўваньні зброі і кантрабандзе.

12 жніўня Гарадзенскі раённы суд прысудзіў Юргена Кляйна да 3 гадоў пазбаўленьня волі, з адтэрміноўкай на адзін год. У яго канфіскавалі таксама аўтамабіль і "Вінчэсьцер".

Безумоўна, боезапасы былі прывезены з парушэньнем нашых законаў. Але ёсьць яшчэ правілы чалавечых узаемаадносінаў. Няўжо была неабходнасьць чатыры з паловай месяцы трымаць ў турме пяцідзесяціпяцігадовага чалавека, ва ўчынках якога яўна не было ніякіх злачынных намераў?

Пасьля суду Юрген Кляйн сказаў карэспандэнту "ПАГОНІ": *"Я ацаніў удзячнасьць беларускіх уладаў за гуманітарную дапамогу. Але я не дапамагаю беларускаму кіраўніцтву, або якім-небудзь палітычным арганізацыям, а толькі простым людзям. Учыненыя з боку дзяржавы рэпрэсіі ня зьменяць маіх адносін да беларускага народу".*

**Дз.КІСЕЛЬ.**

# "МАГІСТРАЛЬ" У ТУПІКУ?

**У Парэччы Гарадзенскага раёну ёсьць крама АПЗ (Аддзел Працоўнага Забесьпячэньня, гандлёвая структура на чыгунцы). Ня вытрымаўшы, як і ўсё дзяржаўнае, нашага баязьлівага рынку, гэтая крама апынулася перад пагрозай закрыцьця (як, зрэшты, зачынілася бальшыня крамаў Парэчча). І тады чыгуначнае начальства сказала загадчыцы прагарэўшай крокі А.Шэньдзерук: "А бяры-ка ты, Анюта, гэтую краму ў арэнду".**

Дзесяць месяцаў таму А.Шэньдзерук заключыла арэндную дамову з Баранавіцкім АПЗ на 5 гадоў. Арэндную плату паклалі сьціплую - 2 мільёны ў месяц. Як ні лічылі, больш пакласьці не змаглі, таму што і сама крама і ўсё абсталяваньне мела 100-працэнтны знос. Значыць А.Шэньдзерук атрымала ў арэнду адныя разваліны.

І адбыўся цуд. Сёньня гэтая крама, якую называюць "Магістраль", зьзяе найноўшымі прылаўкамі, вітрынамі, ёсьць выдатныя лядоўні, а асартымент прадуктаў такі, якога Парэчча ня бачыла з польскіх часоў.

- Дзённая выручка - 15-16 мільёнаў рублёў, у месяц - паўмільярда, -расказвае гаспадыня крамы. - Увесь прыбытак пусьцілі не на праяданьне, а на разьвіцьцё. Прадаўшчыцы ў мяне зарабляюць па мільёну, а ў спажыўсаюзаўскіх крамах - па 300-400 тысяч...

А як жа? У "Магістраль" сьвежыя прадукты завозяцца 3 разы ў дзень. У спажыўсаюзаўскую краму - раз у тры дні. Вось і ўвесь сакрэт. Вось куды панес свае грошыкі пакупнік.

Паглядзеўшы, як крута пайшлі справы ў "Магістралі", чыгуначнае начальства зажурылася: гэткая выгада з-пад носу адыходзіць! І вось ужо начальнік АПЗ В.Максіменка гаворыць: "А вярніся ты, Анюта, зноў пад чуйнае чыгуначнае крыло! А тую дамову аб арэндзе можна і разарваць!"

Можна. І ня будзе "Магістралі" - адзінай сапраўды прыстойнай крамы на ўсю акругу. Зноў людзі будуць купляць прагорклае масла, пракісшую вадкую сьмятану. Таму што дзяржгандаль інакш працаваць проста ня ўмее. І не жадае.

Дарэчы, А.Шэньдзярук на сьвяты выдзяліла 20 парэцкім пенсіянерам больш мільёна рублёў, другім разам - купіла падарункі. Ці можа такое сабе дазволіць дзяржаўная, або спажыўсаюзаўская крама? Куды там, яны самі ледзьве дыхаюць.

**Д.ЛЕВАНОВІЧ.**

# ...А ПЕЦЯ ІДЗЕ ПІЦЬ ПІВА

8 жніўня ў Горадні прайшла прэс-канферэнцыя Старшыні Аб'яднаньня прафсаюзаў вобласьці Ірэны Шылконь. Паводле прыведзеных дадзеных Міжнароднай Арганізацыі Працы, правы



прафесійных саюзаў у Беларусі парушаюцца, як нідзе ў сьвеце. І гэта пры тым, што беларускія прафсаюзы ад тактыкі сілавога ціску на ўлады перайшлі, па словах сп. Шылконь, да "канструктыўнага дыялогу".

Ці прывёў гэты "дыялог" да зьмяншэньня беспрацоўя, павялічэньня заробкаў працоўных? Станоўчага адказу на гэтае пытаньне карэспандэнта "ПАГОНІ" сп.Шылконь, на жаль, не дала. Афіцыйна колькасьць беспрацоўных на гарадзеншчыне складае 3,9 працэнта ад усяго працаздольнага насельніцтва. У Смаргонях гэты паказчык дасягае ўжо 8,7 працэнта. Пры чым - толькі на паперы. Рэальны ж узровень беспрацоўя ў вобласьці, на думку кіраўніка афіцыйных прафсаюзаў, складае каля 10 працэнтаў. Цяжкай застаецца і сітуацыя з своечасовай выплатай заробку. На пачатак жніўня дзяржава запазычыла гарадзенскім медыкам 506 мільёнаў, а работнікам адукацыі - звыш 2 мільярдаў рублёў. За рысай беднасьці, якая складае сёньня 661 тысячу рублёў, жыве вялізная колькасьць насельніцтва. Многія людзі днямі абіваюць парогі прафсаюзаў, выпрошваючы мінімальную матэрыяльную дапамогу.

Да страйкаў, якія магчымы ў такой сітуацыі, кіраўніцтва прафсаюзаў вобласьці ставіцца асьцярожна ("каб ня трапіць пад суд, як менскія метрапалітэнаўцы" - І.Шылконь), але падтрымку не выключае. Праўда, да таго, што рабочыя выйдуць на вуліцу, сп.Шылконь ставіцца даволі скептычна: "Калі Пецю, які плача, што тры месяцы не атрымоўвае заробку, завуць на плошчу - ён ідзе піць піва..."

**Вітаўт РУДНІК.**
**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

# "ДОН" — ЗА КАРДОН

Калгас "Пераможац" Баранавіцкага раёну набыў у летувіскага фермера за 27,5 тысячаў даляраў камбайн "Дон".

Як вядома, у Летуве калгасы расфармаваны, зямля і тэхніка падзелена. Такія машыны як "Дон" ці "Кіравец" на фермерскіх 10-15 гектарах без патрэбы. Вось і прадаюць разумныя летувісы сваіх гігантаў калгасным беларусам.

Выгада ўзаемная. Беларусы набываюць амаль новую тэхніку за 25-30 працэнтаў кошту, а летувісы за атрыманыя грошы купляюць тэхніку меншых габарытаў, больш прыдатную для фермерскіх гаспадарак.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ**

# ГАРАДЗЕНЦЫ Ў "ВЫБОРЧАЙ" І "СУПЕР-ЭКСПРЭСЕ"

На прафесійнай стажыроўцы ў Варшаве пабывалі гарадзенскія журналісты. Стажыроўку арганізавалі Фонд "Салідарнасьць польска-чэшска-славацкая" і гарадзенская філія Беларускага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі.

На працягу трох тыдняў нашыя калегі знаёміліся з арганізацыяй працы двух буйнейшых выданьняў Польшчы - "Газеты Выборчай" і "Супер-экспрэсу". У гарадзенцаў была магчымасьць ня толькі прысутнічаць на рэдакцыйных планёрках, азнаёміцца з работай аддзелаў і службаў газет, але і апублікаваць свае матэрыялы на старонках гэтых выданьняў.

Нашыя калегі пабывалі таксама ў беларускай рэдакцыі Польскага Радыё, варшаўскім аддзеле Польскага Тэлебачаньня, рэдакцыі газеты "Жэчпаспаліта", радыё RMF-FM, каталіцкім інфармацыйным агенцтве.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

# НА АНТЫСЕМІТЫЗМЕ РОБЯЦЬ КАР'ЕРУ

**Сенсацыйная "утка" думца В.Ілюхіна аб падрыхтоўцы дзяржаўнага замаху, які нібыта рыхтуе амерыканскае ЦРУ супраць Прэзідэнта А.Лукашэнкі, атрымала падтрымку з боку вядомага расейскага палітыка У.Жырыноўскага. Вольфавіч ва ўласным стылі разьвіў ілюхінскую "утку", аздобіўшы яе традыцыйнымі пр**о**ісками жыдамасонаў.**

Пракаментаваць новую хвалю антысеміцкіх заяў з Масквы, дружна перадрукаваных беларускімі афіцыйнымі газетамі, "ПАГОНЯ" папрасіла спадара Рыгора Хасіда, які зьяўляецца старшынём гарадзенскага абласнога аб'яднаньня габрэйскай культуры імя Л.Найдуса.

- Гэта абсурд паўнейшы, - сказаў спадар Хасід. - Магчыма, Жырыноўскі лічыць, што паколькі ЦРУ мае грошы, то за грошы знойдуцца жадаючыя зрабіць, што хочаш.

*- А ці сапраўды "бейтараўцы" (ім, паводле Жырыноўскага, адведзена роля атакуючага авангарду аперацыі ЦРУ) адзначыліся тым, што за грошы робяць пад заказ дзяржаўныя замахі?*

- На пачатку стагоддзя Зээв Жабацінскі заснаваў сіяніцкі рух рэвізіянісцкі. "Бейтар" - маладзёжны рух, які ўваходзіў у іх склад. "Бейтар" ставіў мэтаю вяртаньне габрэяў у Ізраіль. Сёньня я сустракаюся з моладдзю, але ня чуў пра дзейнасьць "Бейтара", гэта для мяне навіна. Зараз практычна няма перашкод для выезду ў Ізраіль, таму актыўнасьць такога кшталту арганізацый страціла сэнс.

Да таго ж, габрэі лічаць за лепшае ня ўмешвацца ў справы тых краін, дзе яны знайшлі прытулак. Прынцып усіх габрэйскіх абшчын - кожнаму індывідуальная свабода, але арганізацыйна абшчына палітыкай не займаецца.

Таму ніякіх "бейтараўскіх замахаў" не было, няма і быць ня можа.

*- Чаму антысемітызм пранікае на Беларусь?*

- Думаю, хтосьці зьбіраецца пабудаваць на гэтым кар'еру. У любой дзяржаве ёсьць такія прайдзісьветы. Але калі дзяржава на ўзроўні, на любога прахіндзея знойдзецца ўкарот.

*- Як пачуваюць сябе беларускія габрэі на Беларусі цяпер?*

- Зараз габрэі, і я асабіста, адчуваюць сябе дастаткова свабодна. Вяртаньня да мінулага антысемітызму, веру, ня будзе. Нам усім вельмі хацелася б, каб дзяржава выбралася з крызісу, перш за ўсё эканамічнага. Пакуль ня будзе нармальнай эканомікі, жыцьцё - і культурнае, і духоўнае - не палепшыцца.

**Гутарыў Сяргей САМАСЕЙ.**

# НА ЗАПРАЎКУ ДА СУВОРАВА

Сумеснае беларуска-летувіскае прадпрыемства "Белмістр" атрымала ад гарвыканкаму дазвол на прыцягненьне інвестыцый для будаўніцтва новай аўтазапраўкі. Мясьціцца яна будзе на тэрыторыі аднаго з цэхаў завода такарных патронаў на скрыжаваньні вуліц Суворава і Сакалоўскага.

# ДЫМІЦЬ - ЗНАЧЫЦЬ ПРАЦУЕ?

За 6 месяцаў бягучага году прадпрыемствамі Гарадзеншчыны ў паветра выкінута 19 тысячаў тон шкодных рэчываў. З іх у Горадні - 9 тысячаў (за ўвесь мінулы год было 16 тысячаў). Яшчэ "лепш" ідуць справы ў Лідзе, дзе за першае паўгоддзе прадпрыемствы амаль дасягнулі сваіх мінулагодніх паказчыкаў.

**М.Д.**

# ТАТАЛЬНЫ КАНТРОЛЬ НАД ТАТАЛЬНЫМ АШУКАНСТВАМ

На працягу першага паўгоддзя падатковая інсьпекцыя Лідзкага раёну праверыла 104 суб'екты гаспадараньня. У 70 выпадках выяўлены парушэньні падатковага заканадаўства. У бюджэт дзяржавы спагнана 2,2 мільярда рублёў.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# СІФІЛІС АБАГНАЎ ГАНАРЭЮ

Каля 80 працэнтаў цяжарных жанчын у Лідзе пакутуюць на розныя хранічныя хваробы. У выніку гэтага толькі 23 працэнты дзетак нараджаюцца абсалютна здаровымі. Каля 60 працэнтаў родаў праходзяць пры дапамозе хірургічных аперацый (кесарава сячэньне ды інш.). Сьмяротнасьць у горадзе перавысіла нараджальнасьць. Шмат дзяцей нараджаецца з фізічнымі недахопамі з-за злоўжываньня бацькамі алкаголю і наркотыкаў. Квітнеюць венерычныя хваробы. У Лідзе сіфіліс ужо абагнаў ганарэю. У іншых гарадах сітуацыя, з невялікімі адхіленьнямі, аналагічная.

**Усяслаў ВОЙНІЧ.**

# НЯМА ПРАЦЫ

Адным з лідараў па ўзроўню беспрацоўя па Гарадзеншчыне зьяўляецца Скідаль. На біржы працы там зарэгістравана 540 чалавек. Палова з іх - жанчыны. Кожны чацьвёрты мае сярэднюю сьпецыяльную ці вышэйшую адукацыю. На кожнае вакантнае месца прэтэндуе 10 чалавек.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

# МОДА АД "ВЫСОКАГА КУЦЮР'Е"

**Невялікая клубная зала на ўскрайку Ваўкавыска 13 жніўня сабрала прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў, журналістаў, юрыстаў і проста зацікаўленых на семінар па досьведу самакіраваньня нашых суседзяў, які арганізавалі Фонд імя Л.Сапегі і Фонд імя Ф.Эберта.**




Своеасаблівай уверцюрай да семінару стаў відэафільм, прадстаўлены Фондам Ф.Эберта, які акрэсьліў шырокія грамадзка-палітычныя праблемы постсацыялістычных краін. Пра стварэньне асацыяцыяў мясцовых органаў улады, а таксама пра фармаваньне і рэалізацыю інфармацыйнай палітыкі мясцовага самакіраваньня ў Германіі, Польшчы і краінах Балтыі казалі эксперты Фонду імя Л.Сапегі з Менску і Горадні.

Арганізатары семінару запрашалі да ўдзелу ў ім прадстаўнікоў мясцовай улады, але іх не было сярод удзельнікаў. Напэўна, выявілася спрадвечная чыноўніцкая хвароба, што на Беларусі выклікаецца вірусам "бацькі", які сам кіруе. Таму і адмаўляюць у памяшканьні для правядзеньня семінару асабіста старшыня Ваўкавыскага райвыканкаму сп.А.Зінкевіч, а потым і намесьнік старшыні Ваўкавыскага гарвыканкаму сп.С.Сайко. Таму і ня йдуць вучыцца чыноўнікі і дэпутаты. Вучыцца самакіраваньню на Беларусі сёньня непрэстыжна, і гэтая мода - ад "высокага куцюр'е". Але мода - капрызная рэч.

**Т.КАВЕЦКАЯ.**

НАТАЛЬЛЯ АДОНКІНА (КАСЬЦЕВІЧ),
калгас "Советская Белоруссия"

# ПЕРШАМУ ПРАКУРАТАРУ БЕЛАРУСІ ПРЫСЬВЯЧАЕЦЦА

**Аўтар вершаў сёньня працуе ў калгасе ў Шчучынскім раёне. Да гэтага жыла ў Горадні, была супрацоўнікам праектнага інстытуту. Пазбаўленая працы, жыльля (у інтэрнаце) вымушаная была з сям'ёй перабрацца ў вёску. Але змаганьне з "рынкавым сацыялізмам" і там не прынесла плёну...**

**У поўным адчаі зьвярнулася спадарыня Адонкіна па палітычны прытулак у ангельскую амбасаду, абівала парогі прадстаўніцтва ААН... Зрэшты, чытайце самі.**

*Кожнаму юдзе - асіна свая.*
*Кожнаму полю - араты.*
*Час - для пасеву, і час - для жніўя,*
*Час... Я - табе, Пракуратар.*

*Выцы! - ваўкалакам! - табе "Ура!"*
*Выцы; да прытомнасьці страты!*
*"Слаўся, магутны калгасны Урад!"*
*"Слаўся ў вяках, Пракуратар!"*

*Так! Песьняра нараджае - боль!*
*У перадсьмяротным - часе.*
*Дарма, што завялася моль*
*На Беларускім Парнасе...*

*Долу згінае сьмяротны крыж.*
*Уся Беларусь - пад тым крыжам.*
*Хай тваe хатнія песьняры*
*Дзеляць самоту з Парыжам.*

*Я - дык з табой падзялю. Я - Паэт.*
*Жыцьцё - адкладаю. На потым.*
*І - голас! Няхай - здрыганецца - Сусьвет -*
*Ад гэтай! - жаночай! - самоты.*

*На шыю павешу табе свой плач -*
*Ды каля ордэна! - Грузам!*
*"Бориной бабушке" растлумач*
*Жабрацтва - развалам Саюзу.*

*Можаш ґадзіны чатыры паныць,*
*Як кіраваць табе цяжка,*
*Мо, хоць яна дапаможа ўцяміць,*
*Што "не по Сеньке - шапка".*

*Мо, ты задумаешся - хоць раз, -*
*Што кіраваць - ня ў стане,*
*Што Беларусь - не савецкі калгас,*
*Што не ў сваe ўлез сані.*

*Чэрці равуць з замагільных глыбінь:*
*"Слава - Калгаснаму - Ладу".*
*Сунецца зграя калгасных старшынь -*
*Ды па галовах! - да Улады.*

*Прэцца навала - чырвоная сьмерць.*
*Мала нам чорнай заразы.*
*Ты! - заклікаў мяне - "потерпеть".*
*Ну дык трывайма! - Разам!*

*Эксперыменту - ды чысьціню.*
*Дойдзем з табой да ладу.*
*Я ж во трываю! - тваю хлусьню.*
*Вытрывай! - маю праўду.*

*Я не ваяр! Я хацела ўцячы!*
*Я - ад цябе! - пачула,*
*Што я зьвярнуцца буду магчы*
*Па палітычны прытулак.*

*Што ж ты па радыё там пішчаў*
*Перад сусьветнай здрадай?*
*Зьнікні! Маланкі ў маіх вачах!*
*Бо я здабываю - не радый.*

*Ісьціну бачу. І бачу свой час.*
*Велічнасьць бачу - і здраду.*
*Я атрымала адмоўны адказ*
*Ад Ангельскае Амбасады.*

*З Пекла людзей - не прымаюць у Рай.*
*Шкодзяць "бярлінскія сьцены".*
*Вось жа мой довад! Бачыш? Чытай,*
*Волат ты мой непісьменны.*

***"Шаноўная сп-ня Адонкіна,***
***Пасольства Вялікабрытаніі ўдзячнае Вам за матэрыялы, дасланыя на наш адрас. Вы прасілі пасольства аб прадастаўленьні Вам палітычнага прытулку ў Злучаным Каралеўстве.***

***На жаль, мы вымушаны адмовіць Вам, таму што наша дыпламатычная місія ня мае ні практычных магчымасьцяў, ні кампетэнцыі для вырашэньня гэтага пытаньня. Па палітычны прытулак у Вялікабрытаніі нельга зьвяртацца, знаходзячыся па-за тэрыторыяй Злучанага Каралеўства.***

***Нягледзячы на адмоўны адказ, дазвольце пажадаць Вам усяго найлепшага.***

***Па даручэньні Пасла Яе Вялікасьці,***

***З пашанаю,***
***Юры Шырокі, памочнік па пытаньнях палітыкі і інфармацыі".***

*Так! не прымаюць! І рацыя - ёсьць!*
*І ёсьць - чалавечая годнасьць.*
*Я застаюся. І я тут - ня госьць,*
*"Избранный" мой! "Всенародно".*

*...І прадстаўніцтва ААН, як на грэх,*
*Штучнае ў нашай дзяржаве.*
*Няма там прыёму. Нашто ж яно? Сьмех...*
*І мне засталося - уславіць! -*

*Імперыю, узведзеную на касьцях,*
*(Ад жаху - народ пакорны)*
*Лунае - крывавы жабрацкі сьцяг,*
*Лунае - піряцкі чорны,*

*І ў перспектыве - аж пад далягляд,*
*І нават па-за далягляды -*
*Лунае! - Магутны! - Калгасны! - Зад! -*
*Над Чорнай Пірацкаю Уладай.*

*Усьведамі ж мой, праз сьлёзы, сьмех! -*
*Розумам сваім кволым:*
*Жабрацтва - грэх, і пірацтва - грэх.*
*Жахнiся, які ж ты голы!*

*Забі, калі здольны. Ідзі і забі.*
*Жыцьцё - адкладаю. На потым...*
*І - побач са мною - брат мой - Шэкспір,*
*І - побач жа - брат мой - Гётэ.*

*Я! - адчуваю іх побач з сабой.*
*І я! - з глыбіні калгаса -*
*Я! - адчуваю пякельны боль*
*Майго блізьнюка - Тараса.*

***"Поховайте та й вставайте,***
***Кайданы порвіте"***

*Душою, распнутаю на крыжы -*
*Адсюль, з беларускай вёскі -*
*З багны гнілой афіцыйнай ілжы, -*
*З абшару Няміласьці Боскай -*

*Сэрцам, пакутуючым ад страт, -*
*Зацятым, у змрочным палоне, -*
*Я! -*
***Абвяшчаю Сусьветны Набат.***
*Я! -*
***Абвяшчаю Пагоню.***

# "АМЕРЫКА - МАЯ АМЕРЫКА"



**З верасьня ў Сеймавай зале Новага Каралеўскага палаца адкрыецца выстава нашай землячкі са Злучаных Штатаў, вядомай мастачкі Тамары Стагановіч. Выстава называецца "Амерыка - мая Амерыка" і працягнецца да 30 верасьня. Арганізатарамі яе выступілі Гарадзенскі гісторыка-археалагічны музей, краязнаўчая асацыяцыя ды амбасада ЗША на Беларусі.**

Спадарыня Тамара нарадзілася ў Наваградку ў сям'і былога пасла польскага Сейму Аляксандра Стагановіча. Жылі яны ў вёсцы Нясутычы. У 1944 годзе, ратуючыся ад сьмерці, сям'я Стагановічаў пакінула Беларусь... Жылі ў Аўстрыі, Германіі, а з 1950 году - у Амерыцы.

Другая радзіма захапіла прыгажосьцю прыроды. Гэта і стала ўлюбёнай тэмай Стагановіч-мастачкі. Яе талентам захапляецца ўся Амерыка і Канада. Карціны выстаўляліся ва ўсіх прэстыжных залах гэтых краін. Яе імя ўключана ў дзесяткі даведнікаў кшталту "Хто ёсьць у амерыканскім мастацтве", "Хто ёсьць з амерыканскіх жанчын". UNICEF - аддзел пры ААН некалькі разоў выдаваў яе калядныя паштоўкі ды плакаты.

Аднак найбольш значнай падзеяй у сваім жыцьці Тамара Стагановіч лічыць свой першы прыезд на Беларусь у 1994 годзе. Пад час яго ў Нацыянальным мастацкім музеі ў Менску адбылася першая персанальная выстава нашай землячкі на Радзіме.

**Ул.інф.**

# ПАЧУЙЦЕ НАШ ГОЛАС, ЛЮДЗІ!

Становішча, якое склалася сёньня, напярэдадні новага навучальнага году ў школах Горадні, выклікае нашу глыбокую грамадзянскую і чалавечую трывогу. Ідзе арганізаванае масіраванае наступленьне на нацыянальнае школьніцтва. Усяляк абмяжоўваюцца наборы ў 1-ыя класы з беларускай мовай навучаньня. Вучні 2-4-х класаў, якія ўжо не адзін год вучыліся на мове сваёй Бацькаўшчыны, пераводзяцца цаной балючай ломкі дзіцячых душ на рускую мову. У тых лічаных школах горада, што зьберагліся як беларускія, загадна-адміністрацыйнымі мерамі адкрываюцца рускія класы (у рускіх жа школах мешаніна моваў выкладаньня не дапускаецца).

Мы пратэстуем супраць разбурэньня беларускага школьніцтва ў нашым горадзе, дзе здаўна былі моцныя традыцыі нацыянальнай культуры, дзе навучаньне на роднай мове складалася ў апошнія гады як разгорнутая, нармальная педагагічная сістэма і прыносіла толькі радасьць вучням. Спытайце, дарэчы, пра гэта ў іх, дзяцей.

Мы зьвяртаемся да кіраўніцтва школ і ворганаў адукацыі з патрабаваньнем захаваць беларускія школы і лічыцца не з сёньняшняй палітычнай кан'юнктурай, а з волевыяўленьнем бацькоў і іх канстытуцыйным правам вучыць дзяцей на мове свайго народу. Гэтае права мае кожны, нават калі яго дзіця адзіная ў класе хоча вучыцца па-беларуску.

Мы заклікаем тых бацькоў, якія паводле сумнай савецкай традыцыі прывыклі згаджацца з начальствам і верыць у яго палітычную мудрасьць - задумайцеся пра будучыню сваіх дзяцей, якім жыць у XXI стагодзі. У дэмакратычнай і прававой Беларускай дзяржаве, што стане цаніць свае нацыянальныя інтарэсы. Улады прыходзяць і адыходзяць, народ жа застаецца. Мова бацькоў, дзядоў, прадзедаў - найвышэйшая каштоўнасьць усякага чалавека. Не адбірайце яе ў сваіх дзяцей, не абкрадайце іх духоўна, не старайцеся, каб яны выраслі людзьмі бяз роду-племені.

Ніякія дзяржаўна-палітычныя аб'яднаньні і інтэграцыі ня выратуюць нас ад прыніжэньня, хаосу і беднасьці. Толькі мы, гаспадары сваёй зямлі, павінны ўсьвядоміць, што будучыня Беларусі - у нашых руках. І нацыянальная школа - падмурак гэтай будучыні. Уратуем беларускую школу - забясьпечым нашым нашчадкам годную долю грамадзян, якія будуць паважаць самі сябе, якіх будуць шанаваць суседзі.

**А.ПЯТКЕВІЧ, прафесар універсітэту;**
**А.АСТРОЎСКІ, прафесар медінстытуту;**
**В.ЛУЧКО, дацэнт універсітэту;**
**Усяго 46 подпісаў кандыдатаў і дактароў навук гарадзенскіх універсітэту, медыцынскага і сельскагаспадарчага інстытутаў.**

# КРЫЖАВАНКА

*Пераклaдзі на беларускую мову*

**Склаў Іван КУРБЕКА.**



**Па гарызанталі:** 5. Парное молоко. 6. Двигатель. 10. Подстрекатель. 11. Сбруя. 12. Молодило. 16. Клёст. 18. Приказ. 19. Игрушка. 20. Метание. 25. Овечья шерсть. 26. Полнолуние. 27. Краткость, сжатость. 30. Дыхательное горло. 33. Неурожай. 34. Валежник. 35. Георгин. 36. Нижнее бревно в срубе.

**Па вертыкалі:** 1. Грохот. 2. Повестка. 3. Каменщик. 4. Овца. 7. Толкатель (тех.) 8. Отметка. 9. Платье. 13. Удобство. 14. Человечность. 15. Нагота. 17. Куртка. 22. Осанка. 23. Лентяй. 24. Изнеможение. 28. Ужин. 29. Баловень. 31. Кузница. 32. Стыд.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ N 17**

**Па гарызанталі:** 5. Шарпак. 6. Роздум. 10. Валлё. 11. Столь. 12. Прадуха. 15. Учынак. 18. Шастак. 19. Пажытак. 20. Румза. 21. Агляд. 23. Быльнік. 25. Пралік. 26. Загадка. 30. Звестка. 32. Пітво. 33. Цётка. 34. Слупок. 35. Даёнка.

**Па вертыкалі:** 1. Гальлё. 2. Халепа. 3. Поклад. 4. Луста. 7. Галеча. 8. Недатыкальнасць. 9. Млынар. 13. Наступнік. 14. Засцярога. 16. Правадыр. 17. Рагавік. 22. Прывід. 24. Скочка. 27. Дзядок. 28. Пастаў. 29. Хваля. 31. Цёска.



# НАШ КАЛЯНДАР

**17 жніўня**



**1629 г.** Нарадзіўся Ян III Сабескі, кароль Рэчы Паспалітай у 1674-1696 г.г., таленавіты дыпламат і ваяр.

**18 жніўня**



**1613 г.** Памёр другі вуніяцкі мітрапаліт Іпаці Пацей, буйнейшы рэлігійны дзеяч 17 стагоддзя.

**20 жніўня**



**1919 г.** Памёр Іван Луцкевіч, адзін з пачынальнікаў нацыянальнага Адраджэньня пачатку XX ст.: "нашанівец", выбітны навуковец і публіцыст.

**21 жніўня**

**1860 г.** Памёр Канут Русецкі, вядомы мастак-жывапісец, працаваў у Вільні, Наваградку, на Ашмяншчыне.

**1904 г.** У Горадні адбылася антываенная дэманстрацыя.

**22 жніўня**

**1655 г.** Войскі расейскага цара Аляксея Міхайлавіча захапілі Горадню (акупацыя доўжылася да 1659 году).

**1978 г.** Памёр Піліп Пестрак, вядомы пісьменьнік, грамадзкі дзеяч, цесна зьвязаны лёсам з Гарадзеншчынай.

**23 жніўня**

**1847 г.** Памёр Ян Чачот, славуты паэт, фальклярыст і філамат.

# НАЗЫВАЛІ ДЗЯЎЧАТАЎ РАГНЕДАМІ

Нядаўна рэдакцыю карэліцкай газеты "Полымя" наведала сталага веку жанчына, спадарыня Рагнеда, жыхарка адной з замежных краінаў. Яна шукала зьвестак пра свайго бацьку Рамана Міхайлавіча Пугач-Мурашкевіча з вёскі Падлужжа. І сама яна нарадзілася ў Падлужжы ў 1927 годзе. Дзяўчынку назвалі Рагнедай. "Пагоня" згадвала ўжо, што Рагнедай звалі і дачку Радаслава Астроўскага. Імя надзвычай старажытнае і рэдкае раптам атрымала ў 20-я гады новы арэал распаўсюджаньня - Заходнюю Беларусь. І прычына тут адна - высокая нацыянальная сьвядомасьць.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

Выказваем глыбокае спачуваньне **Віктару Іосіфавічу Будрэвічу** ў сувязі з сьмерцю жонкі.

Сям'я Фарманянаў.

Супрацоўнікі кафедры беларускай культуры ГрДзУ выказваюць спачуваньне дацэнту кафедры **С.А.Піваварчыку** ў сувязі з напаткаўшым яго горам - сьмерцю маці.



# ПАНІКЛІ КРЫЛЫ. "НЁМАН" АБМЯЛЕЎ...

**Згодна з патрабаваньнямі Эўрапейскай футбольнай асацыяцыі (УЕФА), гульні міжнароднага ўзроўню павінны адбывацца толькі на стадыёнах, трыбуны якіх адгароджаныя ад поля кратамі. Днямі такія краты пачалі ўзводзіцца і на гарадзенскім стадыёне "Нёман". Вось толькі гульняў міжнароднага ўзроўню Горадні чакаць яшчэ прыйдзецца доўга - футбол у абласным цэнтры працягвае дэградаваць.**



Юры Мазурчык у атацы.

З буйнога паражэньня з лікам 0:3 распачалі другую палову чэмпіянату краіны футбалісты гарадзенскага "Нёмана". Гэткім чынам магілёўскі "Днепр" на сваім полі адпомсьціў за зусім нелагічнае паражэньне ад гарадзенцаў у першым крузе з лікам 1:2.

Няўдала правялі апошнюю сваю гульню і футбалісты "Кардан Флаерс". Каманда, якая зусім нядаўна лічылася адным з лідараў II лігі, сёньня імкліва здае свае пазіцыі. Прычыны, якія гэта выклікалі, былі добра бачныя ў прайгранай з лікам 1:2 гульні з аршанскім "Максімам-Легмашам". Застаўшыся без "ветэранаў" Сяргея Карозы (адбывае дыскваліфікацыю за абразу арбітра ў адной з папярэдніх гульняў) і Сяргея Саладоўнікава (гуляючы трэнер атрымаў траўму ў канцы першага тайма справаздачнай гульні), гарадзенцы гулялі на дзіва бяззуба ў атацы. Рэальныя пагрозы браме саперніка ствараў час ад часу толькі шматвопытны Юры Мазурчык. Але адзінае, чаго ён змог дасягнуць, гэта "зарабіць" пенальці і пасьпяхова яго рэалізаваць. Але здарылася гэта перад канцом гульні і ўжо пры ліку 0:2.

* * *

І ліга. МВКЦ - "Абутнік" - 1:0

ІІ ліга. "Камунальнік" Слонім - "Будаўнік" Ст.Дарогі - 3:0

Сёньня ў Наваполацку "Нёман" гуляе з "Нафтанам", а "абутнікі" заўтра сустрэнуцца ў Менску з "Атакай-Аўрай".

**Вітаўт РУДНІК.**
**Фота Я. ВАНЮКЕВІЧА.**

# НЯ КІДАЙЦЕ БУТЭЛЕК У ФУТБАЛІСТАЎ

Амаль у самым пачатку матчу розыгрышу Кубку УЕФА-Інтэртота паміж менскай "Атакай-Аўрай" і турэцкім Клубам "Антальяспор" у Маладэчне на поле была выкінута шкляная бутэлька. Інфармацыя пра інцыдэнт накіравана інсьпектарам гульні ў штаб-кватэру УЕФА у Швайцарыю. На маладэчанскі стадыён і "Атаку-Аўру" накладзены штраф у памеры 7 тысяч даляраў. Плаціць яго, магчыма, прыйдзецца затрыманаму гора-заўзятару, супраць якога ўзбуджана крымінальная справа.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

# ГАРАСКОП НА ТЫДЗЕНЬ

**БАРАН (21.3 - 20.4)** Мяркуецца справаздачны тыдзень. Адпачынак пастарайся спалучыць з гасьцяваньнем у сваякоў. Там пачуеш шмат цёплых слоў у свой бок. У аўторак чакае неспадзяванка на рабоце.

**БЫК (21.4 - 20.5)** Дні значных посьпехаў у сябраваньні і мілых сустрэч са знаёмымі, якіх даўно ня бачылі. У працы чакаюць новыя заданьні. З дапамогаю Казярога адолееш перашкоды.

**БЛІЗЬНЯТЫ (21.5 - 21.6)** Перад Табою некалькі спакойных дзён. У нядзелю варта прыгатаваць багаты абед. Магчымы візіт блізкіх сяброў. На рабоце - невялікі флірт з Шалямі.

**РАК (22.6 - 22.7)** Рамантычны перыяд у Тваім жыцьці. У цябе з каханым поўнае шчасьце. Адкрыеш чар глыбокай любові. Таксама памятай аб важным спатканьні ў панядзелак.

**ЛЕЎ (23.7. - 23.8)** Пасьпяховы тыдзень, калі ў сябраваньні не будзеш дамагацца стаць першым. Крыху пакоры і займееш вернага сябра, Вадалея ці Барана. Распачынай справы.

**ПАННА (24.8 - 23.9)** Сонца сьпяшаецца Табе на дапамогу. Адпачывай, добра высыпайся, дбай аб здароўі. Пад час уік-энду можна будаваць арыгінальныя планы на будучыню. Дасканала прадумвай свае сны.

**ШАЛІ (24.9 - 23.10)** Скончыш тыдзень моцным акордам, займеўшы права на адпачынак. Але гэта мусіць быць дзейснае правядзеньне часу. Выпадковае знаёмства можа абудзіць глыбокае пачуцьцё.

**СКАРПІЁН (24.10 - 22.11)** Перад Табою чынныя таварыскія дні. Не сядзі панура ў хаце, далучайся да забаў. Маеш шанец заваяваць нейкага Рака ці Вадалея. Карыстайся правілам: "Каханьне залежыць ад выпадку".

**СТРАЛЕЦ (23.11 - 21.12)** Чакаецца адмыслова справаздачны тыдзень. І ў рабоце мае быць важная справа. Карыстайся выпадкам і займайся хобі. Пры нагодзе зьбірай зёлкі і грыбы ў навакольных лясах.

**КАЗЯРОГ (22.12 - 20.1)** Меркурый абяцае ўдачу ў гандлёвых справах і выйгрышы ў латарэях. У пачуцьцях пераменныя эмоцыі. Памятай, што каханьне пазнаецца толькі ў цярпеньні.

**ВАДАЛЕЙ (21.1 - 19.2)** Зблытаныя дні, мусіш прымаць нечаканых замежных гасьцей. Зробіш багаты прыём, як той казаў "з нічога". У клопаце забудуцца ўсе няўдачы.

**РЫБЫ (20.2 - 20.3)** Бяры свае пад час уік-энду, бо потым шмат спраў на рабоце. Можа шэф мяркуе перамены? Прымі яго пастановы з поўным спакоем, памятай, як здаўна кажуць, што ўсё ўжо было.

# ЯШЧЭ АДНА АЛІМПІЯДА

Учора ў Атланьце пачаліся Параалімпійскія гульні. У складзе зборнай Беларусі на іх выступяць два гарадзенцы. Уладзімір Бубен (абласны спартыўны клуб інвалідаў "Віта") выступіць у турніры цяжкаатлетаў, а Ядвіга Скарабагатая (абласное таварыства інвалідаў па зроку) - на спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы.

**М.ВАСІЛЕВІЧ.**

# КАЦЯРЫНА - ЛЕЙТЭНАНТ

Адзіная алімпійская чэмпіёнка ў складзе зборнай Беларуси Кацярына Хадатовіч загадам міністра абароны Беларусі павышана ў вайсковым званьні з прапаршчыка да лейтэнанта. Маёр Ігар Басінскі стаў падпалкоўнікам.

**В.Д.**



# КІНААФІША ГОРАДНІ

**"ГРОДНА":** 16,17,18 і 19 жніўня - "Сьмяротная бітва" - 9.50, 11.40, 13.20, 15.20, 17.10, 19.10, 21.00; 20-26 жніўня - "Кніга джунгляў" -9.50, 11.40, 13.20, 15,20, 17.10, 19.10, 21.00. ВІДЭА: 16 жніўня -"Гарадзкія піжоны-2" (камедыя); 17,18 жніўня - "Атлантыда - загінуўшы кантынент"; 19 і 20 жніўня - "Воін-прывід" (баявік); 21, 22 і 23 жніўня - "Хмарачос" (баявік). Сеансы: 10.00, 12.00, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00.

**"КАСТРЫЧНІК":** 16,17, 18 і 19 жніўня - "Паміж двух агнёў" (паліцэйскі баявік) - 10.00 (ільготны), 11.40, 12.30, 15.00; "Зажатыя і прыжатыя" (камедыя) _ 15.20, 17.10, 18.50, 20.50; "Сьпіс прыгавораных - 15.30, 17.20; "Эмануэль вандруе па сьвету" (эротыка) - 19.10, 21.00. ВІДЭА: "Лекар хто?" (фантастыка) - 15.00, "Хмарачос" (для дарослых) - 18.40, 20.30; "Воін-прызрак" - 16.50. КІНО-ДЗЕЦЯМ: 18 жніўня - "Пугала" (мультфільм, Польшча) - 12.00; "Сямейка Флінстоўн" (першыя гісторыі) - 12.30. ШКОЛЬНАЯ ДЫСКАТЭКА - 18 жніўня ў 19.00. Начны клуб - музычна-забаўляльная праграма - 16,17,18 жніўня. Пачатак у 22.00.

**"КОСМАС":** 16 жніўня - "Карнік" (баявік) - 15.30, 19.10 і 21.00 (падоўжаны); "Укол парасонам" (камедыя, П'ер Рышар) - 13.40, 17.20; 17 жніўня - "Карнік" - 15.20, 18.30, 20.00; "Укол парасонам" - 13.40, 17.00; Дыскатэка - 21.30; 18 жніўня - Карнік - 11.50, 15.20, 18.30, 20.00; "Укол парасонам" - 13.40; 17.00; Дыскатэка - 21.30.

**"ЧЫРВОНАЯ ЗОРКА":** 17,18 і 19 жніўня - "Чырвоны скарпіён-2" - 10.00 (ільготны); "Дзень незалежнасьці" (фантастыка, ЗША) - 14.20, 18.30; "Занадта быстры, занадта малады" (баявік) - 12.10, 16.30, 20.50; "Семь" (трылер) - 13.50, 16.00; "Дом задавальненьняў" (эротыка) -18.00, 20.00.

**ІМЯ ПУШКІНА:** 16 жніўня - "Прыгоды жоўтага пса" - 10.00 (ільготны); "Часам яны вяртаюцца ізноў" (жахі) - 11.50, 15.40, 19.20; "Кніга джунгляў" (прыгоды) - 13.40, 17.30; Дыскатэка - 21.00.

**ТЭЛЕФОН АЎТААДКАЗЧЫКА КІНАТЭАТРА "УСХОД" 47-81-29.**

# АСЕТР НА БЕЛАРУСІ

У фондах Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея неяк быў знойдзены унікальны фотаздымак гіганцкага асятра. Удалося даведацца, што ён быў злоўлены ў раёне Горадні напярэдадні першай імперыялістычнай вайны. Прыкладна ў той жа час недалёка ад вёскі Навасёлкі Скідальскага раёну вылавілі асятра вагой каля 90 кілаграмаў. Апошні падобны выпадак адбыўся 2 ліпеня 1927 году. Рыбіна важыла 96 кг 400 г і дасягнула ў даўжыню 2,67 метра.

У далейшым асятры ў Нёмане не лавіліся, але ў раку заплывалі. Бачылі іх у 1930-40-х гадах нават у прытоках Нёмана - Віліі і Шчары. Вясной 1949 году пасьля вялікай паводкі рыбакі з вёскі Гожа Гарадзенскага раёну назіралі, як у плыўную сетку трапіў асетр, але хутка разарваў путы і пайшоў. У 1952 годзе рыбакам з вёскі Беражаны Карэліцкага раёну недалёка ад вёскі Сіняўкі трапілася ў невад рыба каля 2 метраў даўжынёй, прарвала яго і зьнікла. Такую рыбіну яны ніколі ня бачылі і ня ведалі яе назвы, але сярод малюнкаў прадстаўнікоў іхтыяфаўны ўказалі на асятра. Гэта была апошняя "сустрэча" з асятром на Нёмане.

Увогуле балтыйскі асетр (менавіта пра яго ішла гаворка вышэй) дасягае даўжыні 3-х метраў і важыць 200 і больш кілаграмаў. Гэта тыпова прахадная рыба, якая трапляе ў рэкі толькі для нераставаньня. Увогуле, ён стаў вельмі рэдкім у самім Балтыйскім моры і амаль зьнік з рэк Заходняй Эўропы.

У водных артэрыях нашай рэспублікі трапляўся яшчэ адзін прадстаўнік асятроў - асетр рускі. Напрыканцы мінулага стагоддзя ён у значнай колькасьці ўваходзіў з Чорнага мора ў Днепр на нераставаньне, бачылі яго часам у Прыпяці, Сожы, Беразіне. Падымаўся ён да Магілёва і Дарагабужа. Апошнія зьвесткі аб вылоўліваньні асятроў у Дняпры ў межах Беларусі сустракаюцца да 20-х гадоў нашага стагоддзя. У 1920 годзе ля Жлобіна быў злоўлены асетр вагой у 34 кілаграмы, а ў 1927 ля Быхава ў невад трапіў 50-кілаграмовы.

Прычынай зьнікненьня асятроў на Беларусі могуць быць і невялікія паводкі, але ў большай ступені - будаўніцтва на рэках буйных вадасховішчаў, гідраэлектрастанцый, у прыватнасьці Днепрагэса. Тады і сталі плаціны на шляху асятроў да месцаў нераставаньня. Тым ня менш, існуе магчымасьць вярнуць асятроў у беларускія рэкі. Маю на ўвазе штучнае разьвядзеньне ў цеплаводных азёрах гэтых каштоўных відаў рыб.

**Ю. ШАСТАК, старэйшы навуковы супрацоўнік Гарадзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея.**

# АЛЬПІНІСТЫ КОСЯЦЬ ГАРАДЗЕНСКІЯ ГАЗОНЫ

**У чаканьні візіту прэзідэнта камунальнікі праяўляюць надзвычайную актыўнасьць і, нават, адвагу.**

У панядзелак 12 жніўня гарадзенцы, якія праходзілі ці праязджалі старым мостам праз Нёман, былі сьведкамі нязвыклай карціны.

Па схілу гары, якая падымаецца ад вуліцы Маставой да бернардынскага касьцёлу, на вяроўцы, зачэпленай за тулава, цягалі ўверх-уніз чалавека. Чалавек трымаў у руках газонакасілку, якой падстрыгаў траўку, што расьце на схіле. Касільшчык выглядаў як сапраўдны альпініст, толькі без альпенштока і шыпаваных ботаў.

# КАМІКАДЗЭ НА ДАРОГАХ

Вечарам, калі на скрыжаваньнях адключаюць сьветлафоры, на дарогах зьяўляюцца "камікадзэ", з-за якіх часта адбываюцца дарожна-транспартныя здарэньні. Так, 12 жніўня а 10-й гадзіне грамадзяне, якія чакалі тралейбус на прыпынку па БЛК у Горадні, маглі назіраць, як "Масквіч" не прапусьціў "Жыгулі" па галоўнай дарозе. Машыны сутыкнуліся на высокай хуткасьці, адна з іх ледзь не перакулілася. На шчасьце, у гэты момант пешаходаў на праезнай частцы і пераходзе не было.

**С.С.**

# ЗЛАШЧАСНЫЯ ШТАНЫ

У адным з дамоў па вул.Пушкіна маладая жыхарка з Магілёва, якая прыехала ў Горадню пагасьцяваць, вывешвала на вяроўку для прасушкі штаны. Але тыя зьляцелі і завіслі на дрэве. Каб іх зьняць, дзяўчына залезла на дрэва, але няўдала - звалілася і з пераломамі трапіла ў бальніцу.

## К Р Ы М І Н А Л

### ЯК СЛОН ПЕРАХОДЗІЦЬ ПРАЗ МЯЖУ

**Грашовыя ручайкі ад бабулек, гандлюючых нелегальна цыгарэтамі ва ўсіх ажыўленых месцах Горадні, цякуць у рукі тытунёва-сьпіртавознай мафіі. Сканфіскаваныя ў гэтым годзе гарадзенскай міліцыяй 2 мільёны 271 тысяча 250 пачкаў цыгарэт зьяўляюцца кропляй у моры тытунёвай прадукцыі, якая нелегальна ўвозіцца ў Беларусь.**

Як паведаміў нядаўна на брыфінгу для журналістаў начальнік службы крымінальнай міліцыі УУС аблвыканкаму Віктар Жарабіла, механізм нелегальнай дастаўкі цыгарэт і алкаголю ў нашую краіну добра адладжаны. Транспарт з таварам афармляецца на мытні як транзітны і па дакумантах ідзе ў Расею. Па дарозе туды на тэрыторыі Беларусі "зьнікае" і разгружаецца, хоць пасьля ў кіроўцы на руках будуць паперы, што ён пераехаў беларуска-расейскую мяжу і дзе трэба разгрузіўся. Затым оптам "тавар" развозіцца па надзейных "кліентах", ад якіх далей трапляе ў рукі бабулек. Назад да "мазгавога цэнтру" цячэ ўжо грашовы ручай, на які закупляюцца новая партыя "тавару", неабходныя дакуманты і службовыя асобы. Праколы ў гэтым ланцужку зьяўляюцца надзвычай рэдка. Адзіным сур'ёзным дасягненьнем гарадзенскай міліцыі ў барацьбе з кантрабандыстамі можна лічыць выкрыцьцё "сьпіртавознай" групоўкі "Лешэка", у якой канфіскавалі алкаголю на 75 тысяч даляраў. Дый гэты посьпех быў адносным -"Лешэк" уцёк з-пад варты.

**Вітаўт РУДНІК.**

### КАВУНЫ НА СЬМЕТНІК

Дарагі кошт прыйшлося заплаціць прадпрымальнікам, што прыгналі на Скідальскі рынак машыну з астраханскімі кавунамі і якія "асьмеліліся" прадаваць тавар не па "рынкавых" (5 тысячаў за кілаграм) а па сваіх (2 тысячы за кг) коштах. Канкурэнты ня спалі. Прычым у прамым сэньсе. У ноч з чацьвера на пятніцу на мінулым тыдні ўвесь тавар "дабрадзеяў" быў абліты салляркай. Тры тоны кавуноў прыйшлося выкінуць на сьметнік...

**Віктар ЛЮДВІКОВІЧ.**

### У ЗАХОДНІ РАЙ

Позьняй ноччу каля вёскі Тракелі Воранаўскага раёну мясцовай міліцыяй быў затрыманы "Ікарус" з літоўскімі нумарамі, які суправаджала іншамарка. Усе шыбы ў аўтобусе былі занавешаны фіранкамі і таму ён нагадваў нейкі прывід. Але, калі міліцыянты адчынілі дзьверы, то высьветлілася, што яго салон быў цалкам забіты (усяго 57 чалавек) нелегаламі з Індыі, якія імкнуліся трапіць у Германію праз Прыбалтыку. У Беларусь, хутчэй за ўсё, яны прыехалі з Украіны.

Кіроўца ж аўтобуса, разам з суправаджаючымі, пасьпеў уцячы.

### ПАПЛЫЛІ...

Каля мільёна малькоў карпа апынуліся днямі ў Ласасянцы. А трапілі яны ў рэчку з прыватнага возера, якое належыць фермеру з Ласосна. Ноччу невядомы зламысьнік пашкодзіў керамічную трубу, па якой і сплылі малькі.

**Іван ДАНІЛОВІЧ.**

ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд «Бацькаўшчына»
Рэгістрацыйны нумар 597
Падпісны індэкс 63124
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул. Дамініканская,1
(0152) 45-35-61, 45-29-96
E-mail: andrei@pagonia.belpak.grodno.by
FREESPACE BBS 0152-45-37-14 (23.00-10.00)
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасьць за падбор і дакладнасьць фактаў, іх меркаваньні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі.
Адказнасьць за зьмест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Гарадзенская абласная узбуйнёная друкарня: 230023, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4
Заказ 2755 Наклад 13269
Нумар падпісаны да друку ў 16.00, 15.08.96
Рэдактар Мікола Маркевіч